Гродна
№24 (482),
24 снежня 2017
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# ВЫНІКІ 2017 ГОДА У КАСЦЁЛЕ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ





Кожны год застаецца ў памяці асаблівым чынам. У сэрцы пакідаюць след розныя падзеі: як кароткачасовыя, так і доўгатэрміновыя, як радасныя, так і сумныя. Усе яны маюць разнастайны ўплыў на жыццё, але збіраюцца ў адзін вялікі багаж, з якім крочым далей у будучыню. Давайце разам узгадаем, як гэты год адбіўся на жыцці дыяцэзіяльнай супольнасці.

● працяг на с. 4–5




"Прыйдзі, Пане, напоўні маё сэрца і натхні мяне быць плодным". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IV НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Лк 1, 26–38**

Бог паслаў анёла Габрыэля ў горад галілейскі, які называўся Назарэт, да Дзевы, заручанай з мужам па імені Юзаф, з дому Давіда, а імя Дзевы – Марыя. Анёл, увайшоўшы да Яе, сказаў: “Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою”. Яна ж збянтэжылася ад слоў ягоных і разважала, што гэта за прывітанне. І сказаў Ёй анёл: “Не бойся, Марыя, бо знайшла Ты ласку ў Пана. І вось зачнеш ва ўлонні сваім і народзіш Сына, і дасі Яму імя Езус. Ён будзе вялікі і будзе названы Сынам Найвышэйшага, і дасць Яму Пан Бог трон Давіда, бацькі Ягонага. І валадарыць будзе над домам Якуба вечна, і валадарству Яго не будзе канца”. А Марыя сказала анёлу: “Як станецца гэта, калі я мужа не ведаю?”. Анёл сказаў Ёй у адказ: “Дух Святы сыдзе на Цябе, і моц Найвышэйшага ахіне Цябе. Таму і народжанае Святое будзе названа Сынам Божым. Вось і Альжбета, сваячка твая, і яна зачала сына ў старасці сваёй, і ёсць ужо на шостым месяцы тая, якую называлі бясплоднай; бо для Бога няма нічога немагчымага”. Тады Марыя сказала: “Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле твайго слова”. І адышоў ад Яе анёл.

### НЯХАЙ ЕЗУС ЖЫВЕ Ў НАС!

Сённяшняе Евангелле вучыць адпаведна перажываць таямніцу Божага Нараджэння. Яно паказвае Найсвяцейшую Маці і Яе веру. Марыя без рэшты даручыла сябе Стварыцелю, адкрыўшы сваё сэрца на ўздзеянне Святога Духа. Кожны, хто так, як Яна, бязмежна давярае любові Айца, прымае Збаўцу і жыве Яго Боскім жыццём. Менавіта тады Святы Дух надае форму думкам, словам і ўчынкам чалавека, робячы яго падобным да Езуса.

У час адзначэння нараджэння Хрыста нельга забывацца аб тым, што самае важнае – Сын Божы прыходзіць у свет, каб узвысіць чалавека. Таму калі Пан пастукаецца ў сэрца, адкрыйма яго з верай, як гэта зрабіла Марыя. Няхай праз уздзеянне Святога Духа Езус знойдзе ў ім месца і заўсёды жыве ў нас!

**Ці здольны я поўнасцю даверыць сябе Богу?**

**Ці гатова маё сэрца, каб запрасіць да сябе Езуса?**

### СВЯТА СВЯТОЙ СЯМ’І

**Лк 2, 22. 39–40**

Калі мінулі дні іх ачышчэння паводле Закону Майсея, прынеслі Яго ў Ерузалем, каб прадставіць перад Панам. Калі яны выканалі ўсё паводле Закону Пана, тады вярнуліся ў Галілею, у горад свой Назарэт. Дзіця ж расло і ўмацоўвалася, і напаўнялася мудрасцю, а ласка Божая спачывала на Ім.

### ПЕРАЙМАЙМА СВЯТУЮ СЯМ’Ю!

Біблія небагата расказвае пра Святую Сям’ю, але спецыялісты нават у гэтых нешматлікіх фрагментах могуць прачытаць многае. Акрамя таго, мы аб нечым можам даведацца ўскосна, гледзячы на Езуса, бо кожны чалавек мае ў сабе сляды асобы бацькоў, таго, як выхоўваўся, як праходзіла дзяцінства.

У доме Хрыста панавала цёплая атмасфера, поўная любові – моцнай, непахіснай, вернай... Да такога жыцця Езуса, Марыі і Юзафа паклікана кожная сям’я. Сёння, у часы духоўнага крызісу, нам асабліва неабходны канкрэтны ідэал, якім з’яўляецца Святая Сям’я. Не можам страціць яго з поля зроку, таму што пакуль чалавек мае перад сабой узор дасканаласці – нават калі не ўстане дасягнуць яго – нягледзячы ні на што, крок за крокам набліжаецца да ідэалу.

**Што я раблю, каб мая сям’я была моцная Богам?**

**Ці з’яўляюся добрым прыкладам для сваіх дзяцей, унукаў?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Нам так шмат дадзена!

*Апошнія дні адыходзячага года напоўнены ліхаманкавымі падсумаваннямі, справаздачамі... Людзі падлічваюць даходы, прыбыткі, выдаткі і страты. З тэлебачання, радыё, прэсы, інтэрнэту даведваемся пра найважнейшыя палітычныя, спартыўныя, культурныя падзеі ў свеце і краіне. Але трэба ўсвядоміць, што ўчарашні дзень ужо не належыць нам – ператвараецца ў гісторыю. Таму варта з удзячнасцю ўспамінаць мінулае, усім сэрцам уключацца ў сучаснасць і верна адкрывацца на будучыню.*

Канец каляндарнага года непазбежна нагадвае нам, што час ляціць хутка і сучаснасць бліскавічна становіцца былым. Поспехі і прыбыткі губляюць сваю вартасць. Застаецца толькі тое, што ад Бога, тое, што вечнае. Адзін з вядомых амерыканскіх мысліцеляў Генры Ван Дайк напісаў: “Час надта павольны для тых, хто чакае; надта хуткі для тых, хто баіцца; надта доўгі для тых, хто пакутуе; надта кароткі для тых, хто весяліцца. Аднак для тых, хто кахае, час з’яўляецца вечнасцю”.

Як дыяцэзіяльная супольнасць Гродзенскага Касцёла маем за што падзякаваць Богу ў бягучым годзе. Распачацце I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі, дыяцэзіяльная перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай, асвячэнні і кансэкрацыі святынь – толькі некаторыя важныя падзеі, сведкамі якіх мы сталі. Нам многае было дадзена, і гэта абавязвае!

Бог выбраў і паверыў нам, адарыў годнасцю сваіх дзяцей і даручыў адпаведнае заданне да здзяйснення – у залежнасці ад таго, якое маем пакліканне. Не пакінуў у адзіноце, але правёў шляхамі да сваёй міласэрнасці, якая так неабходна сучаснаму чалавеку.

Таму ў той час, калі многія з недаверам пазіраюць на каляндар, які ў хуткім часе павінны будуць замяніць на новы, мы ўзносім да Пана неба і зямлі сардэчныя словы ўдзячнасці. Перад надыходам новага года павінны сказаць Стварыцелю: “Будзь праслаўлёны за ўсё, што ў нас і праз нас здзейсніў, за дар жыцця і ўсе аказаныя ласкі, за любоў і сумленнасць, за тое, што застаешся ў Хлебе любові, што мы можам быць святлом для свету і соллю зямлі. Будзь праслаўлёны, Ойча, у справах нашых рук і сэрцаў!”.

**Дарагія Чытачы!**

Разам з рэдакцыйным калектывам прагну падзякаваць Пану Богу за дабро, якое мы маглі супольна стварыць, ідучы разам дарогай веры. Ад усяго сэрца ўдзячны таксама Вам за кожны выраз зычлівасці і за тое, што наша газета з’яўляецца частым госцем у Вашых дамах. Дзякую за лісты і цёплыя словы. Вы ўсе для нас вельмі важныя. Цэнім кожнае Ваша старанне, каб газета была жывая і актуальная.

Няхай Слова Хрыста прабывае ў Вас з усім сваім багаццем, каб перажывалі штодзённыя справы пад уздзеяннем ласкі, спяваючы сэрцам. Як казаў св. Ян Павел II, усё, што б Вы ні рабілі словам ці ўчынкам, рабіце ў імя Пана нашага Езуса, дзякуючы Богу Айцу праз Яго.

---

*“І пайшлі яны, спяшаючыся, і знайшлі Марыю, і Юзафа, і Немаўля, якое ляжала ў яслях”.*

*(Лк 2, 16)*

## Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!

### Дарагія Дыяцэзіяне!

*Божае Нараджэнне зноў запрашае нас у Бэтлеем, дзе пастушкі знайшлі Марыю, Юзафа і Немаўля, якое ляжала ў яслях. Узгадваючы падзеі той ночы, пастараемся перажыць іх нанова. Будзем заклікаць Святога Духа, каб дапамог увайсці ў таямніцу бэтлеемскай ночы, удзельнічаць у ёй з любові, у духоўнай блізкасці са Святой Сям’ёй.*

*Няхай нашым удзелам будзе спазнанне нараджэння Езуса ў асабістым жыцці. Няхай Хрыстос нараджаецца ў нашых сэрцах, каб Яго любоў прыносіла плён штодзённых учынкаў любові, Яго радасць дапамагала перамагаць усялякі страх і боязь, а Яго дабрыня – схіляцца над патрабуючымі.*

*Дарагія Браты і Сёстры, духоўна яднаючыся пры вігілійным стале і дзелячыся традыцыйнай аплаткай, жадаю Вам плённага перажывання свят Божага Нараджэння. Няхай радасць загосціць у Вашых сэрцах, сем’ях і ў цэлым грамадстве. Няхай Езус Хрыстус, Божы Сын, які прыходзіць у гэты свет з дарам збаўлення, узмацняе Вас у веры, надзеі і любові. Жадаю, каб час Новага 2018 года быў пазначаны дзеяннем Святога Духа і Яго дарамі, будучы шчодрым на плён Яго перамяняючай прысутнасці: любоў, радасць, супакой, велікадушнасць, лагоднасць, дабрыню, вернасць, далікатнасць, стрыманасць (параўн.: Гал 5, 22).*

*Радасных, спакойных, поўных надзеі і аптымізму свят Божага Нараджэння, а таксама шчаслівага, багатага на Божае бласлаўленне Новага 2018 года!*

***Аляксандр Кашкевіч,***
*Біскуп Гродзенскі*

# Несці радасць усім добрым людзям

*З Віфліемскай зоркай, Юзафам, Марыяй, маленькім Езусам ды іншымі ўдзельнікамі святочнай працэсіі моладзь з парафіі Маці Божай Анёльскай рушыць 26 снежня ад хаты да хаты. Калядоўшчыкі наведаюць дзясяткі сем'яў, каб напоўніць сэрцы людзей радасцю ад Нараджэння Хрыста, а ў дадатак нашчадраваць сабе шмат яркіх эмоцый ды мех пачастункаў.*


У мінулым годзе з песнямі і пажаданнямі калядоўшчыкі абышлі каля паўсотні дамоў

***"Традыцыя калядавання ў гродзенскай францішканскай парафіі зарадзілася яшчэ ў 90-я гады, але з цягам часу абрад паступова занік,*** – распавядае а. Павел Раманчук OFMConv. – ***З мэтай адраджэння і пашырэння гэтай прыгожай святочнай традыцыі ў мінулым годзе мы стварылі адмысловую групу калядоўшчыкаў. У яе склад увайшлі міністранты і парафіяльная моладзь. Наша першае калядаванне прайшло вельмі пазітыўна. Падчас наведвання дамоў удалося крануць сэрцы людзей непасрэднасцю і шчырасцю, дапамагчы ім упоўні адчуць атмасферу свята Раства. Гаспадары сустракалі нас з вялікай радасцю. Казалі, што ўжо шмат гадоў, як не віталі калядоўшчыкаў. Нам дзякавалі, частавалі, а гэта значыць, што дэбют атрымаўся ўдалым. Таму ў гэтым годзе нават не ўзнікала пытанне, ці пойдзем зноў калядаваць".***

Падрыхтоўка да сёлетняга шчадравання пачалася на пачатку снежня. Быў распрацаваны сцэнарый прадстаўлення, моладзь размеркавала ролі, вывучыла калядныя вершы і песні, а таксама падабрала адпаведныя касцюмы і атрыбуты.

***"Вядома, што калядаванне – традыцыя з язычніцкімі каранямі,*** – адзначае а. Павел, – ***але мы, як шчырыя католікі, робім акцэнт на хрысціянскім свяце. Падчас калядавання стараемся перадаць евангельскую вестку аб Нараджэнні Езуса з дапамогай разнастайных калядных сімвалаў. Моладзь нясе выяву Віфліемскай зоркі, якая нагадвае тую, што запалілася на небе, калі нарадзіўся Збаўца. Калядоўшчыкі пераапранаюцца не ў язычніцкіх персанажаў – такіх, як каза, мядзведзь – а ў пастушкоў і анёлаў, Маці Божую і св. Юзафа, Трох Каралёў, нагадваючы тым самым пра герояў святой ночы Нараджэння Пана".***

Варта адзначыць, што для самадзейных артыстаў з францішканскай парафіі калядаванне – гэта не столькі касцюміраваная імпрэза, колькі спроба асэнсавання велічнай падзеі і прыбліжэння яе значэння для кожнага чалавека. Заходзячы ў дамы, калядоўшчыкі не толькі віншуюць гаспадароў з Раством, жадаюць ім здароўя, шчасця і дабрабыту. Яны робяць акцэнт на тым, што праз радасную падзею нараджэння Хрыста ўсе людзі нарадзіліся да новага, вечнага жыцця. Таму трэба цешыцца кожнаму дню, падораным Госпадам, дзякаваць Яму за магчымасць быць адзін з адным, дбаць не толькі аб святочным убранстве дамоў, але і аб чысціні, светласці душы ў святочны перыяд і ў іншыя дні года.

### Улад Трамбовіч



*Калядаванне – гэта свайго роду сведчанне нашай веры. Ідучы вуліцамі горада, мы спяваем рэлігійныя песні, паказваем, што ёсць моладзь – творчая, вясёлая, актыўная, якая не саромеецца дэманстраваць сваю прыналежнасць да Касцёла. Мінакі заўсёды вітаюць нас гучнымі воклікамі, апладысментамі, а мы, у сваю чаргу, віншуем іх са светлым святам Нараджэння Пана.*

*Калі завітваем у дамы людзей, то стараемся праз сваё тэатралізаванае прадстаўленне данесці асноўны змест Раства. Заўважаем, што некаторыя людзі пасля нашага выступлення становяцца задуменнымі. Магчыма, недзе ў глыбіні душы яны пачынаюць разважаць пра сэнс свайго жыцця, пра тыя прыярытэты, якімі кіруюцца штодня. Вельмі важна, што ў кожным доме на заканчэнне калядавання мы не толькі прамаўляем прыгожыя вiншаванні, але і супольна молімся ў інтэнцыі сям'і, якая нас прымае.*

*Мы калядуем у 2-гі дзень свят. Але я не шкадую, што праводжу гэты час не за святочным сталом са сваёй сям'ёй, бо ведаю, што раблю важную і патрэбную справу. Родныя мяне падтрымліваюць, паколькі ўпэўнены, што такая дзейнасць мяне акрыляе.*

### Юлія Пукель



*Мы калядуем толькі ў сваёй парафіі. Гэта раён, дзе ў асноўным месцяцца прыватныя дамы. Там жыве шмат католікаў, таму трэба спыняцца практычна каля кожнай брамкі. Пытаемся ў гаспадароў, ці жадаюць яны нас прыняць. Здаўна існуе павер'е, што прыход калядоўшчыкаў – шчаслівы знак, магчыма таму нас вельмі ахвотна запрашаюць. Бывала, траплялі ў дамы, дзе жывуць праваслаўныя. Але і там нам былі рады.*

*Людзі заўжды гасцінна прымаюць калядоўшчыкаў, добразычліва рэагуюць на выступленне, пачынаюць спяваць разам з намі. Мяне найбольш узрушваюць моманты, калі гаспадары, гледзячы на нас, узгадваюць свае дзіцячыя і маладыя гады, як самі калядавалі, распавядаюць пра бабуль і дзядуль – захавальнікаў святочных традыцый, пра заснежаныя зімовыя вёскі, дзе Раства перажывалася ў асаблівай, сапраўдны цёплай і сямейнай атмасферы.*

*Лічу, што ў радаснае свята Нараджэння Пана не трэба замыкацца ў сабе, трэба выходзіць у свет, дзяліцца сваімі эмоцыямі. А гаспадары абавязкова аддзячаць: хто – усмешкай, хто – добрым словам, а хто – прысмакамі.*

*Кінга Красіцкая*

# Божае Нараджэнне пасля Божага Нараджэння

Напэўна, свята Нараджэння Пана – гэта адзін з самых чаканых для хрысціяніна дзён у годзе. Ніякі іншы не прыносіць столькі ўражанняў і эмоцый, радасці і супакою ў сэрцы. Урачыстасць мае асаблівую атмасферу, якую часам нават нельга перадаць ці апісаць, яе трэба проста перажыць, акунуцца ў яе. Таму мы ўсе з нецярплівасцю чакаем гэтай важнай падзеі – Дня нараджэння Хрыста.

Аднак, як часта здараецца, пасля ўрачыстасці, пасля прыемных і радасных хвілін надыходзіць шэрая штодзённасць: праца, абавязкі, клопаты... Такое ўжо жыццё. І можа падацца, што ад Божага Нараджэння не засталося і следу. Елку хаваюць на гарышча ці выкідваюць на сметнік, прыгожыя і шчырыя словы, сказаныя і пачутыя падчас ламання аплаткай, сціраюцца ў памяці, а радасць ад таго, што сям'я сабралася разам, гасне. Усё вяртаецца на свае месцы. Як кажуць, святы, святы і па святах. Аднак ці ў гэтым заключаецца сапраўдная сутнасць Божага Нараджэння? Безумоўна не!

Раства – не толькі нагода для святкавання, смачныя стравы, наведванне родных і знаёмых ці прыгожа аздобленая елка з падарункамі і ўпрыгожаны дом. Гэта адназначна штосьці большае! Божае Нараджэнне – гэта магчымасць зноў запрасіць Хрыста ў сваё сэрца і жыццё, нагода, каб у чарговы раз упэўніцца, ці добра падрыхтавана для Яго месца ў нашай штодзённасці, у нашых сем'ях. Перажыванне гэтай праўды не можа абмяжоўвацца адным днём. Яно павінна трываць усё жыццё і стала прыгадваць аб дарозе ў Неба, аб тым, у якім напрамку мы павінны рухацца да святасці, аб любові да Стварыцеля і бліжняга, і што ўсе мы з'яўляемся дзецьмі бязмежна любячага Айца.

Трэба памятаць, што толькі ад нас саміх залежыць, ці застанецца Езус у нашым жыцці, нягледзячы на тое, што святы скончацца і наступіць штодзённасць. Таму няхай сёлетняе святкаванне Божага Нараджэння будзе заахвочваннем для кожнага, каб пастаянна трываць у радасці з-за прыходу ў свет Хрыста.

*Кс. Ян Раманоўскі*

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Некаторыя секулярызаваныя грамадствы згубілі хрысціянскі сэнс нядзелі, асвечанай Эўхарыстыяй. Гэта грэх. У іх неабходна ажывіць гэтую свядомасць, аднавіць значэнне свята, значэнне радасці, парафіяльнай супольнасці, салідарнасці, адпачынку, які ўмацоўвае душу і цела. Настаўніцай усіх гэтых каштоўнасцей з'яўляецца Эўхарыстыя. [...] Што можам адказаць тым, хто сцвярджае, што не важна хадзіць на св. Імшу, нават у нядзелю, а важна толькі быць добрымі, любіць бліжняга? Гэта праўда, што якасць хрысціянскага жыцця вымяраецца здольнасцю любіць, як казаў Езус: "Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго" (Ян 13, 35). Але як можам практыкаваць Евангелле, не чэрпаючы з нядзелі ў нядзелю неабходныя для гэтага сілы з невычэрпнай крыніцы Эўхарыстыі? Мы ідзём на св. Імшу не каб даць штосьці Богу, але каб атрымаць ад Яго тое, у чым пасапраўднаму маем патрэбу.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 13.12.2017*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Сёлетні дэвіз прыбыцця Бэтлеемскага агню супакою – "У Табе ёсць святло". Ён нагадвае нам праўду аб тым, што гэтае асаблівае святло заўсёды паходзіць ад Бога. Указвае на глыбокае пранікненне ў людское жыццё святла Езуса, якое "асвятляе цемру".*

*Кожны з нас, незалежна ад свайго ўзросту, можа стаць чалавекам, які нясе святло, а значыць, нясе Хрыста ў свет. Да гэтага таксама заклікае Святы Айцец Францішак, які кажа: "Ідзі і абвяшчай". Ён заахвочвае нас быць вестунамі Божай Навіны ў сваіх асяроддзях, месцах вучобы і працы. Мы можам здзейсніць гэта не толькі праз вялікія падзеі, але, найперш, праз штодзённае служэнне на карысць іншых людзей; праз святло, якое захоўваем у сваіх вачах; праз згоду духу, якую не парушаюць нават самыя складаныя дні; праз жаданне служыць, нават калі адчуваем расчараванні. Чым больш святла Езуса мы маем самі, чым больш гэтага святла ў сем'ях, тым больш наша супольнасць дынамічная, а місія – праўдзівая.*

*Распалім у іншых святло, што ёсць у нас, каб людзі, якія арыентаваны на святло, верылі не ў цемру, а ў яснасць дня; каб не паддаваліся ночы, але мелі надзею на ранак; каб не скарыліся злу і заўсёды верылі ў бясконцыя магчымасці дабра. [...] Сучасны чалавек і свет маюць патрэбу ў гэтым святле!*

*Фрагмент прамовы падчас прывітання Бэтлеемскага агню супакою, 19.12.2017*

# ВЫНІКІ 2017 ГОДА
## Ў КАСЦЁЛЕ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

● працяг са с. 1

**Рэдакцыя "Слова Жыцця" склала рэйтынг на аснове самых значных для Гродзенскай дыяцэзіі падзей, якія мелі месца ў 2017 годзе. Галоўныя здарэнні каментуе Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч.**

### ЧАЛАВЕК ГОДА: СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ КС. ЛЕАНІД НЯСЦЮК

24 сакавіка адышоў у вечнасць пробашч парафіі ў Гервятах (дэканат Астравец) кс. Леанід Нясцюк. Гэта дзякуючы яго намаганням велічная мясцовая святыня была адноўлена, а вакол яе паўстаў унікальны ландшафтны дызайн. Сёння ён прыцягвае ўвагу шматлікіх айчынных і замежных турыстаў. З-за адметнай прыгажосці госці мястэчка празвалі Гервяты "жамчужынай Беларусі", параўноўваючы іх з маленькай Швейцарыяй ці французскім Версалем, а непасрэдна сам касцёл – "беларускім Нотр-Дамам".

**Даведка**

*Кс. Леанід Нясцюк нарадзіўся 24 мая 1955 года. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Людвікаса Павілоніса 22 мая 1982 года ў Каўнасе (Літва). З 1996 года служыў пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах. Памёр 24 сакавіка 2017 года. Цела спачылага святара пахавана каля мясцовага касцёла.*

***Смерць святара для дыяцэзіяльнай, а асабліва парафіяльнай супольнасці – гэта заўсёды вялікі боль. Але жыццё ідзе далей. Прыходзіць іншы душпастыр, які працягвае справу евангелізацыі. Трэба шчыра маліцца, каб у святарскія шэрагі ўступалі новыя асобы, якія праз некаторы час будуць годна працягваць распачатую справу. Вялікае шчасце, што Гродзенская дыяцэзія ў 2017 годзе ўзбагацілася яшчэ 3-ма святарамі. Імі сталі кс. Анджэй Ганчар з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, кс. Андрэй Бялаблоцкі з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне і кс. Яўген Ціхан з парафіі Божай Міласэрнасці ў Лідзе.***

### ВІЗІТ ГОДА: НАВЕДВАННЕ ГРОДНА АПОСТАЛЬСКІМ НУНЦЫЕМ У БЕЛАРУСІ

4–6 сакавіка гродзенцы ўпершыню віталі ватыканскага дыпламата арцыбіскупа Габара Пінтэра. Іерарх прыбыў з жаданнем пазнаёміцца з партыкулярным Касцёлам на Гродзеншчыне. У рамках візіту Апостальскі нунцый сустрэўся з каталіцкім і праваслаўным духавенствам, гарадскімі ўладамі, а таксама наведаў парафіяльныя супольнасці і пагутарыў з мясцовымі вернікамі.

10 лістапада, за дзень да 25-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Апостальскай Сталіцай і Беларуссю, папа Францішак прыняў на аўдыенцыі арцыбіскупа Габара Пінтэра. Маем надзею, што Апостальскі нунцый падзяліўся са Святым Айцом добрымі ўражаннямі аб Касцёле ў Беларусі і, у прыватнасці, на Гродзеншчыне.

***Візіт арцыбіскупа Габара Пінтэра ў Гродна быў успрыняты нашымі вернікамі з вялікай зычлівасцю і энтузіязмам. У асобе прадстаўніка Ватыкана дыяцэзіяне нібыта віталі самаго Святога Айца Францішка. Падчас візіту арцыбіскуп Габар запэўніў, што робіць усё, каб доўгачаканы прыезд Папы ў Беларусь стаў фактам. Нам застаецца толькі маліцца ў гэтай інтэнцыі і цярпліва чакаць!***

### СТРАТА ГОДА: ЗНІШЧАНЫ КАСЦЁЛ У КЛЮШЧАНАХ

Раніцай 6 чэрвеня ў Клюшчанах (дэканат Астравец) падчас пажару згарэла святыня амаль з 300-гадовай гісторыяй. Па афіцыйнай версіі, адбылося кароткае замыканне ў электраправодцы.

Цяпер мясцовыя вернікі збіраюцца на малітве ў старой плябаніі, якая знаходзіцца каля касцёла. Там жа вырашана адбудаваць капліцу. Па словах пробашча парафіі кс. Анатолія Захарэўскага, ужо ўсталяваны новыя вокны, дзверы, плануецца закуп лаў і абразоў для святыні. Дзякуючы ахвярнасці дыяцэзіян і людзей добрай волі, значная частка рамонту ўжо зроблена.

***Кожная святыня – святое месца, дзе людзі могуць сустрэцца з Богам. Знікненне старажытнага касцёла ў Клюшчанах з'яўляецца вялікай стратай для ўсёй дыяцэзіі, бо ўсе мы складаем адну вялікую супольнасць у Хрысце. З-за няшчаднага пажару вернікі засталіся без месца малітвы. Аднак важна тое, што яны надалей збіраюцца кожную нядзелю, бо насамрэч менавіта яны самі ствараюць гэты духоўны Касцёл. Я веру, што дзякуючы ахвярнасці нашых дыяцэзіян, якія аказалі матэрыяльную падтрымку, а таксама іншых ахвяравальнікаў у бліжэйшы час тут паўстане новы дом малітвы.***

### ЛІЧБА ГОДА: 163

Менавіта столькі дзён (з 13 мая па 22 лістапада) працягвалася дыяцэзіяльная перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай, прымеркаваная да 100-годдзя аб'яўленняў Марыі ў Партугаліі. Дыяцэзіяне мелі магчымасць адкрыць для сябе фацімскае пасланне нанова.

***Амаль на працягу паўгода Маці Божая ў фацімскай фігуры вандравала па нашых вёсках і гарадах. Гэта былі своеасаблівыя рэкалекцыі, якія ўзрушылі не адно сэрца, запрашаючы ўвайсці на шлях малітвы, пакаяння і навяртання, выключны час, каб нанова ўслухацца ў голас Марыі, які 100 гадоў таму пачулі 3-ое маленькіх пастушкоў і які цяпер гучаў для вернага люду нашай зямлі.***












◆ *Колькасць католікаў у Швецыі расце па прычыне міграцыі і шматлікіх навяртанняў. Сярод навернутых – былыя лютэране, атэісты і мусульмане. Як заўважае ардынарый Стокгольма кардынал Андэрс Арборэліус, "звычайна гэта людзі добра адукаваныя, якія імкнуцца шукаць праўду". Іерарх прызнаў, што вымушаны купляць або арэндаваць пратэстанцкія святыні, каб было месца, дзе можна цэлебраваць для вернікаў Эўхарыстыю. Такім чынам, Скандынавія сёння складае адзіны рэгіён Еўропы, дзе каталіцкі Касцёл развіваецца хуткімі тэмпамі.*

◆ *Падобна як і ў Польшчы, у Італіі імкнуцца абмежаваць гандаль па нядзелях і святах. Старшыня Камісіі італьянскага епіскапата па пытаннях працы і сацыяльных праблем арцыбіскуп Філіпа Сантора падтрымаў парламенцкую ініцыятыву, якая павінна ўрэгуляваць гэты момант. Іерарх падкрэсліў, што не мае на ўвазе якой-небудзь палітычнай арыентаванасці – яго цікавіць годнасць чалавека. "Працы нельга прысвячаць усё жыццё", – заўважыў прадстаўнік італьянскага епіскапата.*

◆ *Карціну Леанарда да Вінчы "Збаўца свету", якая на лістападаўскім аўкцыёне дома Крысці дасягнула рэкорднага кошту (450,3 млн даляраў), набыў саудаўскі прынц Бадэр ібн Абдула ібн Мухамед ібн Фархан ас-Сауд. На сёння гэта самы дарагі за ўсю гісторыю твор мастацтва, прададзены на публічным аўкцыёне. Карціна прадстаўляе Езуса, які трымае ў левай руцэ хрустальны шар – сімвал свету, а правую ўзносіць для благаслаўлення. На думку гісторыкаў мастацтва, яна была намалявана каля 1500 г. для караля Францыі Людовіка XII.*

◆ *Кароль рок-н-рола, вядомы сотнямі папулярных песень Элвіс Прэслі спяваў таксама і пра веру. Амерыканскі поп-музыкант неаднаразова спасылаўся на хрысціянскія матывы ў сваёй творчасці. Кампазіцыя "Miracle of the Rosary" ("Цуд Ружанца") з'явілася на дыску "Elvis Now" у 1970-я гг. Але гэта не адзіная песня на рэлігійную тэматыку, запісаная вядомым артыстам. У рэпертуары Элвіса была таксама прыгожая кампазіцыя "In My Father's House" ("У доме майго Айца"), змест якой непасрэдна звязаны са словамі Хрыста.*

◆ *Дадатак "5 хвілін з Богам" – гэта электронная форма малітоўніка, у якім на кожны дзень можна знайсці адзін з псалмоў брэвіярыя, фрагмент Евангелля на дадзены дзень, разважанне і пытанне для роздуму, просьбы з ютрані, "Ойча наш" і канцовую малітву з ютрані дадзенага дня. "Гэта толькі 5 хвілін у суткі, але дзень адразу становіцца прыгажэйшы", – каменціруюць карыстальнікі. Дадатак падрыхтавала рэдакцыя "Каталіцкага дапаможніка", якая ўжо на працягу года штомесяц прапануе сваім чытачам малітоўнік у друкаванай версіі. Дадатак можна бясплатна спампаваць з Google Play ці App Store.*

*credo.pro; deon.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*




***Гэтае Божае Нараджэнне я буду святкаваць 56-ты раз. Апошнія 11 гадоў перажываю яго з асаблівай, вялікай радасцю ў душы…***

*Божае Нараджэнне заўсёды святкавалася ў нашай сям'і. Нават у час, калі касцёлы былі зачынены, вера пераследавалася. Памятаю, як падчас службы ў войску атрымліваў ад родных аплатку ў канверце.*

*Але неяк незаўважна ў маім жыцці настаў перыяд, калі не адрозніваў ні будняў, ні свят – усё было аднолькава шэрым. І я сам быў у гэтым вінаваты. З-за злоўжывання алкаголем апынуўся ў глыбокай сацыяльнай яме. Хоць я і ўсведамляў, што гэта жудасна, што з-за мяне пакутуюць жонка і дзеці, але нічога не мог зрабіць. Нібы штосьці прадпрымаў, а не атрымлівалася.*

*Так праходзілі гады. І вось аднойчы Бог паслаў на мой жыццёвы шлях а. Юзафа Гэнзу. Я адчуваў, што Усемагутны працягвае мне руку праз гэтага святара. Душпастыр запэўніваў, што ў такой няпростай сітуацыі трэба лячыць у першую чаргу душу.*

*Пазней былі рэкалекцыі, духоўныя практыкаванні, разважанні ў хатнім касцёле. У гэтыя моманты Пан дакранаўся да маёй душы. Хоць не адразу, але паступова з Божай дапамогай у мяне атрымалася вярнуцца да нармальнага існавання. Адлік майго 2-га жыцця пачаўся 27 снежня 2006 года…*

***Вялікі Вам дзякуй, а. Юзаф, ад жонкі і дзяцей! З Вашай дапамогай зараз у Божым духу перажываю ўсе ўрачыстасці ды і, увогуле, кожны дзень. Прынамсі, імкнуся да гэтага. І шчыра жадаю таго ўсім людзям!***

*Пётр Скрымблевіч, п. Каробчыцы*

## ДАСЯГНЕННЕ ГОДА: ДЗЯРЖАЎНАЯ РЭГІСТРАЦЫЯ ПАРАФІІ Ў ПАГАРАНАХ

15 кастрычніка на ўездзе ў мікраён Пагараны ў Гродне быў асвечаны каталіцкі крыж. Урачыстую падзею здзейсніў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у прысутнасці шматлікіх вернікаў, якія жадаюць, каб у будучыні для Пагаранаў і Кашэўнікаў паўстала святыня. Дэкрэтам ардынарыя тут ужо заснавана парафія св. Яна Паўла II. На наступны дзень пасля літургічнага ўспаміну св. заступніка, 23 кастрычніка, парафія атрымала дзяржаўную рэгістрацыю. Мясцовыя вернікі перажылі вялікую радасць ад таго, што крок за крокам набліжаюцца да вялікай мэты. Як падкрэслівае арганізатар парафіі кс. Генрых Яблоньскі, "мы давяраем усе свае намаганні Богу і верым: усё адбываецца згодна з Яго планам". На дадзены момант святар заклапочаны будаўніцтвам падмурка, якім з'яўляюцца самі вернікі: ад гэтага фундаменту залежыць, наколькі трывалым будзе Касцёл.

***Рэгістрацыя новай парафіі заўсёды з'яўляецца вялікай радасцю. У выпадку Пагаранаў гэтая радасць яшчэ большая, паколькі парафія выбрала сваім заступнікам св. Яна Паўла II, Святога Айца, які так моцна паспрыяў аднаўленню касцёльных структур у нашай краіне. Я ўпэўнены, што – як гэта прыгожа сказаў у гаміліі падчас пахавання Яна Паўла II кардынал Ёзаф Ратцынгер – "наш любімы Папа стаіць у акне дома Айца, пазірае на нас і блаславляе".***



## НАБЫЦЦЁ ГОДА: АДКРЫЦЦЁ РЭКАЛЕКЦЫЙНАГА ДОМА Ў РОСІ

29 верасня, у свята св. Міхала Арханёла, ардынарый Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу ў рэкалекцыйным доме "Міласэрнасць" пры дыяцэзіяльным санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі (дэканат Ваўкавыск). Узвядзенне такога тыпу будынка стала магчымым дзякуючы матэрыяльнай і духоўнай падтрымцы шматлікіх вернікаў, нераўнадушных дыяцэзіян. І, такім чынам, праз 5 гадоў, у лістападзе, рэкалекцыйны дом ужо прыняў першых пастаяльцаў. З гэтага часу ён служыць для ўсіх ахвотных, якія жадаюць прыняць удзел у рэкалекцыях і іншых фармацыйных сустрэчах, што адбываюцца ў Росі.

***Касцёлу неабходны разнастайныя сустрэчы і месцы, якія спрыяюць развіццю духоўнага жыцця вернікаў. Бясспрэчна, гэтаму служаць катэхетычныя класы, парафіяльныя бібліятэкі, рэкалекцыйныя дамы. Гэта там праводзіцца фармацыйная дзейнасць, здзяйсняецца аднаўленне і паглыбленне малітвы.***



## ПАДЗЕЯ ГОДА: РАСПАЧАЦЦЕ І СІНОДА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

16 лістапада, ва ўрачыстасць Маці Божай Вастрабрамскай, адбылося адкрыццё І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі. Ардынарый Аляксандр Кашкевіч благаславіў яго на плённую працу, зазначыўшы, што "нашаму Касцёлу неабходны новы дух, а рэалізуемаму ў ім душпастырству – новыя спосабы, каб дайсці да вернікаў, асабліва да маладых людзей".

Ужо адбылася першая сустрэча галоўных камісій і старшыняў сінадальных камісій. У хуткім часе будуць скліканы групы, у якіх распачнуцца дыскусіі па пэўных вызначаных пытаннях. Па выніках абмеркавання паўстануць працоўныя дакументы, якія будуць уважліва разглядацца дыяцэзіяльным Касцёлам.

***У цэнтр дадзенай падзеі пастаўлена Божае слова, таму дэвізам абраны словы "Жыць Евангеллем". Найважнейшай задачай Касцёла ў кожную эпоху, у любым месцы і часе з'яўляецца евангелізацыя, г. зн. абвяшчэнне Езуса Хрыста, Збаўцы свету. Прагну, каб мы як супольнасць Гродзенскага Касцёла зрабілі евангелізацыйную місію яшчэ больш плённай і здолелі дайсці з радасным пасланнем Евангелля да сэрца кожнага чалавека.***



## НАВІНА ГОДА: У ДЫЯЦЭЗІІ РАСПАЧАЛІ СЛУЖЭННЕ СЁСТРЫ ЯДЗВІЖАНКІ

3 верасня ў Гродзенскай дыяцэзіі нясуць паслугу 3 манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр св. Ядзвігі (ядзвіжанкі). Яны займаюцца катэхетычным выхаваннем дзяцей і моладзі ў парафіі Святога Духа ў Гродне. Як зазначаюць манахіні, маюць вялікае поле для працы: "Рыхтуем больш за 150 дзяцей да Першай св. Камуніі. Да прыкладу, раней мелі групы па 10-15 чалавек. Гэта вялікая радасць, што на Гродзеншчыне такі жывы Касцёл". Вядома, працаваць у такіх абставінах – справа няпростая. Сёння цяжкасці свайго служэння сёстры ахвяруюць на Хрыстовы алтар з моцнай верай, што ад таго, што будзе закладзена ў маладое пакаленне сёння, залежыць будучыня Касцёла і ўсяго чалавецтва.

**Даведка**

*Кангрэгацыю Сясцёр св. Ядзвігі заснаваў са згоды Святога Айца Пія IX кс. Роберт Спіске. Датай паўстання супольнасці лічыцца 14 чэрвеня 1859 года, калі першыя 4 манахіні склалі вечныя абяцанні. Зацверджанне кангрэгацыі Апостальскай Сталіцай адбылося 12 студзеня 1931 года. Заступніцай абрана св. Ядзвіга, княгіня Сілезская.*

*Сёння манахіні кангрэгацыі служаць у Польшчы, Чэхіі, Даніі, Аўстрыі, Германіі і Беларусі. На нашы землі сёстры прыбылі 25 гадоў таму, распачаўшы сваё служэнне ў Слуцку (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).*

***Кожная манаская супольнасць з'яўляецца багаццем Касцёла і робіць яго здольным да ўсякай добрай справы. У гэтым годзе наша дыяцэзія ўзбагацілася прадстаўніцамі Кангрэгацыі Сясцёр св. Ядзвігі. Хацелася б пажадаць манахіням, каб праз сваю штодзённую паслугу яны ўказвалі вернікам дарогу да Бога і самі ўсё больш набліжаліся да Яго.***



**Як бачна, нават у прамежках невялікага часу, а менавіта года, Касцёл на Гродзеншчыне актыўны, дынамічны. Ён развіваецца, не стаіць на месцы. Увасабляе розныя ідэі, намагаецца быць сучасным. І тут трэба сабе ўсвядоміць, што Касцёл існуе для людзей і з людзей складаецца. Таму ад нас саміх шмат у чым залежыць будучыня супольнасці вернікаў. Няхай у наступным годзе кожны знойдзе магчымасць зрабіць уклад у будаўніцтва Касцёла. Гэта можа быць хаця б маленькая цаглінка. Адна да другой – і разам з Богам нам па сілах вялікія справы!**

*Ангеліна Пакачайла*

***Здарылася так, што я зноў адбываю тэрмін пакарання (да 25 студзеня 2020 года) у гродзенскай турме №1. Гэта адно з нешматлікіх папраўчых месцаў, дзе прадстаўнікі хрысціянскіх канфесій аказваюць духоўную падтрымку як асуджаным, так і тым, хто знаходзіцца пад следствам. Праз духавенства многія арыштаваныя прыходзяць да Бога і вырашаюць сысці з таго шляху, які прывёў іх у месца зняволення.***

*У турме я таксама пазнаў Усемагутнага. Быў ахрышчаны ў каталіцкім Касцёле а. Казімірам Жылісам. Але не да канца адкрыў сваё сэрца і розум: далей грашыў, спадзеючыся, што міласэрны Бог прабачыць. Шчыра кажучы, не маліўся, не прымаў удзел у Эўхарыстыі. Аднак зерне, што высадзіў у маім сэрцы а. Казімір, хоць і са спазненнем, але дало плён.*

*Зараз я глыбока ўсведамляю ўсё тое, што рабіў у жыцці няправільна. Прымаю, Бог – мой Збаўца, Адкупіцель, мая Крыніца ласкі! Добра разумею, што праваднікамі да гэтага разумення былі менавіта служыцелі Касцёла. Знаходзячыся ў турме, я рэгулярна чытаю выпускі каталіцкай газеты "Слова Жыцця". Дзякуючы гэтаму далей развіваю сваю веру.*

***Ад усяго сэрца хачу выказаць шчырую падзяку Касцёлу, яго прадстаўнікам, найперш, за тое, што Вы ёсць. Праз Вас многія людзі здабываюць ісціну ў Богу, навяртаюцца і адкрываюцца на ласкі Усявышняга. Усіх са святамі Нараджэння Збаўцы, якія прагне нарадзіцца ў душы кожнага чалавека...***

*Віталій Уладзіміраў, турма №1 у Гродне*




**CatholicNews.by**

### *Самбрэра ад Святога Айца прадалі на аўкцыёне*

***Дабрачынная падзея адбылася ў неапалітанскай сядзібе грамадскага тэлебачання "RAI". Атрыманыя грошы прызначацца на патрэбы мясцовай дзіцячай бальніцы.***

*Капялюш, выстаўлены на аўкцыёне, сам па сабе не меў асаблівай вартасці. Стаў каштоўным, паколькі яго ахвяраваў Пантыфік.*

*Папа Францішак практыкуе такі спосаб дабрачыннасці дастаткова часта. Падобны выпадак нядаўна адбыўся з падораным яму элітным "Lamborghini", які прададуць на аўкцыёне "Сотбіс". Выручаныя сродкі будуць прызначаны на падтрыманне 3-ох дабрачынных праектаў.*




### *Творы Рафаэля адкрылі ў Ватыкане пасля 500 гадоў*

***Эксперты лічаць, што гэтыя 2 выяўленыя роспісы, з'яўляюцца апошнімі, якія стварыў майстар Рэнесансу, перш чым заўчасна памёр у 1520 годзе, маючы толькі 37 гадоў.***

*Роспісы былі адкрыты падчас ачышчэння і кансэкрацыі адной з зал у Ватыканскіх музеях. Жаночыя постаці, якія прадстаўляюць сабой Справядлівасць і Сяброўства, Рафаэль намаляваў каля 1519 года. Аднак не паспеў скончыць творы. Пасля яго смерці іншыя мастакі завяршылі распісванне сцяны гэтай залы, а 2 роспісы Рафаэля былі забытыя.*

*Дырэктар Ватыканскіх музеяў лічыць, што кансэкрацыя адкрытых роспісаў Рафаэля і цэлай залы працягнецца найменш да 2022 года. "Гэта, апроч Сіксцінскай капліцы, адзін з найважнейшых праектаў апошніх дзесяцігоддзяў, рэалізаваных у Ватыканскіх музеях", – паведаміла Барбара Ята, італьянскі гісторык мастацтва.*




### *Шопка з Мальты ў Бэтлееме*

***Стаенка на плошчы Ясляў будзе выстаўлена да 20 студзеня. Год таму яе можна было ўбачыць на плошчы св. Пятра ў Ватыкане.***

*Від шопкі адсылае да мальтыйскіх пейзажаў, беручы пад увагу мясцовую архітэктуру, раслінасць, жывёл. Яна мае 17 метраў у даўжыню, 12 метраў у шырыню, а ў самым сваім высокім пункце дасягае 8-мі метраў. Змяшчае 17 фігур.*

*Шопку спраектаваў Мануэл Грэч з вострава Гоза.*

*Кінга Красіцкая*

НАВІНЫ



## У чаканні свят, або калядны настрой

Напярэдадні свят Божага Нараджэння ва ўсім свеце дзеці затаіўшы дыханне чакаюць сустрэчы са св. Мікалаем. У шматлікіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі былі арганізаваны інсцэніраваныя спатканні з гэтым персанажам, які, вядома, ніколі не прыходзіць без падарункаў.

Шматлікія дабрачынныя акцыі на карысць патрабуючых былі праведзены падчас Адвэнту па ініцыятыве актыўных вернікаў. Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN", а таксама члены біблійнай і адарацыйнай груп, лідары курса "Альфа" і Душпастырства маладых сем'яў выпякалі печыва, якое пазней разыходзілася за ахвяраванні сярод вернікаў гродзенскай парафіі св. Францішка Ксаверыя. Выручаныя з акцыі "Пячэнька за пячэньку" сродкі накіраваны на дапамогу дзецям з асаблівасцямі развіцця ў Гродзенскі цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі.

Дыяцэзіяльны "Карытас" штогод арганізоўвае ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне святочны кірмаш. Дабрачынным таварыствам таксама праведзена акцыя "Калядны падарунак". Сабраныя гродзенцамі ў ходзе мерапрыемства прадукты харчавання, прадметы асабістай гігіены, цацкі, слодычы накіруюць на падтрымку хворых і самотных людзей, дзяцей-сірот, інвалідаў. Калядныя падарункі ў рамках акцыі ўжо атрымалі дзеці з асаблівасцямі развіцця ў дзіцячым садку №65, дашкольным цэнтры развіцця дзіцяці №30 і сярэдняй школе №18 г. Гродна.

Напярэдадні свят дыяцэзіяльны "Карытас" па традыцыі зладзіў вігілію для бедных. Працаўнікі дабрачыннага таварыства ўручылі прысутным прэзенты, сабраныя падчас акцыі "Мабільная дапамога".

Калядным настроем з навучэнцамі Гродзенскага прафесійна-тэхнічнага каледжа бытавога абслугоўвання падзяліўся семінарыйны гурт "AVE". Клерыкі прапанавалі навучэнцам паглыбіцца ў сэнс перажывання свят Божага Нараджэння.

Шмат у якіх парафіях вернікі выраблялі шопкі, каб затым упрыгожыць імі свой дом. У парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі ўжо ў 15-ты раз прайшоў конкурс "Бэтлеемская стаенка". Найлепшыя працы адзначаны прызамі.

На тыдні, што папярэднічаў святам Божага Нараджэння, у катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя ў Гродне быў дастаўлены Бэтлеемскі агонь. Ён прыбыў з зямлі, дзе нарадзіўся Хрыстос. Святло штогадовай акцыі "Бэтлеемскі агонь супакою" перадаюць з краіны ў краіну па ўсёй Еўропе. Ён можа трапіць на калядныя святы ў дом да кожнага дыяцэзіяніна. Агонь дастаўляецца скаўтамі ва ўсе святыні Гродзеншчыны.

КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Табліца ў гонар Тадэвуша Касцюшкі адкрыта ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. На ёй змешчаны надпіс на 3-ох мовах – беларускай, польскай і англійскай: "Тадэвушу Касцюшку – удзячныя нашчадкі". Урачыстая падзея была прымеркавана да 200-годдзя з часу смерці вялікага абаронцы свабоды. Яшчэ адна табліца ў гонар вядомага генерала была ўстаноўлена ў катэдры ў 100-ую гадавіну яго смерці.

Выйшла 11-ае выданне навукова-тэалагічнага зборніка "Studia Theologica Grodnensia". Шмат артыкулаў у ім прысвечаны марыйнай тэматыцы. У 1-ай частцы змяшчаюцца матэрыялы з канферэнцый і навуковых сімпозіумаў, у 2-ой – навуковыя артыкулы, у 3-яй – справаздачы. Тэксты апублікаваны на польскай, беларускай, рускай і італьянскай мовах. Рэдакцыйная калегія заахвочвае да супрацоўніцтва ўсіх, хто жадаў бы падзяліцца з шырокай грамадскасцю вынікамі навуковых даследаванняў і ўласна праведзенага аналізу.

АДНЫМ РАДКОМ



• Семінар для абаронцаў жыцця, арганізаваны дабрачынным фондам "Адкрытыя сэрцы", прайшоў у кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта ў Гродне. • Ля фігуры Маці Божай Фацімскай, якая падарожнічала па дыяцэзіі падчас перэгрынацыі, супольна памаліліся медперсанал і пацыенты ў хоспісах №2 і №3 г. Гродна. • Салезіянская моладзь са Смаргоні на чале з кс. Дзянісам Бразінскім здзейсніла пілігрымку ў лідскі касцёл Узвышэння Святога Крыжа. • Дні засяроджання, якія правёў кс. Руслан Мазан, адбыліся ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.• Дні засяроджання для дзяўчат пад дэвізам "Затрымайся, паслухай у цішыні" прайшлі ў кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Кармэлітак ад Дзіцятка Езус у Гудагаі (дэканат Астравец).• Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў касцёл св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве, а таксама парафіяльныя капліцы ў Вердамічах і Бортніках (дэканат Ваўкавыск). • 15-годдзе кансэкрацыі касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі адзначылі ў Лідзе.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

*Ангеліна Пакачайла*

АНОНСЫ

## УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ "ГРОДНА-РОСЬ" І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКОВУЮ СУСТРЭЧУ!

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы).**

**Праграма:**

19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;

20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

*У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.*

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць з 5 па 7 студзеня ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі. Тэма рэкалекцый – "Не бойцеся! Абвяшчаю вам вялікую радасць... Нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца" (Лк 2, 10–11).**

Прысутныя змогуць адчуць атмасферу семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з алюмнамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы. Да ўдзелу ў духоўных практыкаваннях і разважаннях над сваім жыццёвым шляхам запрашаюцца юнакі ад 14-ці гадоў, асабліва міністранты (просьба мець з сабой комжу).

*Колькасць удзельнікаў абмежаваная. Запісацца можна да 29 снежня па тэлефоне семінарыі: (8 0152) 77-02-34.*

*Адказныя за рэкалекцыі: кс. Валерый Быкоўскі – (8 029) 695-24-69, кс. Андрэй Лішко – (8 029) 744-99-61.*

## У ГРОДЗЕНСКІМ ФРАНЦІШКАНСКІМ КАСЦЁЛЕ АДБУДЗЕЦЦА КАЛЯДНАЕ ПРАДСТАЎЛЕННЕ

**Прэм'ера мюзікла "Гісторыя Раства" запланавана ў парафіі Маці Божай Анёльскай на 7 студзеня. Пачатак ў 17.00.**

Такім чынам дзеці і моладзь, якія рыхтуюць каляднае прадстаўленне, працягнуць атмасферу свят Божага Нараджэння і падзякуюць Пану Богу за прыйсце ў гэты свет.

## XVII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**У бягучым годзе мерапрыемства, якое па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча, пройдзе 29 студзеня ў Доме культуры пад дэвізам: "Зорка, свяці! Калядка, ляці! Містэрыя няхай адбываецца...". Пачатак у 14.00.**

Да ўдзелу запрашаюцца суполкі, хоры, салісты. Выступіць можа любы жадаючы. Узрост не абмежаваны.

*Аб жаданні прыняць удзел у праглядзе неабходна да 14 студзеня праінфармаваць пробашча парафіі ў Сапоцкіне кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 або (8 0152) 99-21-30.*

*Падчас рэгістрацыі трэба ўказаць:*

- *імя і прозвішча выканаўцы або назву гурта ці групы;*
- *колькасць спевакоў;*
- *назвы калядак.*

*Кожны ўдзельнік можа прадставіць не больш за 3 калядкі (да 3-ох слупкоў).*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 снежня 1997 г.** – кс. д-р Рышард Слівінскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*

**4 студзеня 1967 г.** – кс. Баляслаў Красадомскі, *проб. Ішчолна.*

## Каляндар падзей

***24 снежня***
*Вігілія Божага Нараджэння.*

***25 снежня***
*Урачыстасць Божага Нараджэння.*

***26 снежня***
*Свята св. Стэфана, дыякана і мучаніка. Блаславленне аўса.*

***27 снежня***
*Успамін св. апостала Яна, евангеліста. Блаславленне віна.*

***28 снежня***
*Свята святых Немаўлят, мучанікаў.*

***31 снежня***
*Свята Святой Сям'і. Молімся аб хрысціянскім жыцці і святасці ў сем'ях.*

***1 студзеня***
*Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі. Сусветны дзень малітвы аб супакоі ў свеце.*

***6 студзеня***
*Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў). Блаславленне крэйды, ладану і вады.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 6 лютага.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***

*Каб хрысціяне розных канфесій у нашай дыяцэзіі прагнулі жыць у сапраўднай еднасці і ўзаемнай любові паводле навукі Хрыста і Яго Касцёла.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Рэдактару Юрыю Марціновічу, Паўлу Салабуду, Валерыю Быкоўскаму, Яраславу Грынашкевічу, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства пажаданняў добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень і свята Святога Духа. Нягай добры Пан асвячае Вас сваёй любоўю і адорвае моцай у штодзённым служэнні Яму і людзям.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю шмат ласкаў ад Божага Дзіцяці, свят, напоўненых радасцю, супакоем, цеплынёй, павагай і дабрынёй, а таксама няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень душпастырскай паслугі.
*С. Ірэна Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чыстцовым душам*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Безляповічу, Аляксандру Сямінскаму, Анджэю Ганчару, Паўлу Скубу, Руслану Мазану, Аляксандру Мацкевічу, Валерыю Спірыдону, Юрыю Ясевічу, Віталію Дабраловічу, Айцу Казіміру Жылісу, усім Святарам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі, Ксяндзу Рэктару і Клерыкам Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі, напаўняе супакоем, радасцю, любоўю і благаслаўляе кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекуецца Вамі. Няхай свята Святога Духа, якое зззяе ў Вашых сэрцах, ніколі не гасне, дадае сіл і натхнення, а Бэтлеемская зорка паказвае прыгожы шлях да Пана.
*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Ваша Эксцэленцыя Ксёндз Біскуп Аляксандр Кашкевіч! Паважаныя Ксяндзы Дзмітрый Урбановіч, Артур Валчкевіч, Юрый Ёдзік і Дзяніс Бразінскі!**
З нагоды свят Божага Нараджэння дасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы і трываласці на кожны дзень, аптымізму, нязгаснага запалу ў веры, надзеі і любові, супакою ў сэрцы, душэўнага цяпла ў святарскім служэнні. Няхай Езус Хрыстус удзяляе Вам свае шчодрыя ласкі, а Маці Божая апекуецца і абараняе ад зла. Няхай людзі, якіх сустракаеце ў жыцці, адорваюць дабрынёй і зычлівасцю. Штодзённа ўзгадваем пра Вас у сваіх малітвах.
*З павагай, апостальства "Маргарытка" са Смаргоні*

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Антонію Дзям'янку, Ксяндзам Пробашчу Віталію Цыбульскаму, Раману Ялоўчыку, Віктару Савіцкаму, Леону Лішэку, Дзмітрыю Сядлецкаму, Яну Балтрукевічу, а таксама ўсім Святарам, якія працавалі ў нашым касцёле,**
з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем здароўя, радасці, зычлівых людзей побач, плёну ў душпастырскай працы, моцы Святога Духа. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найлепшай дарогай да Пана, а Ён адорвае сваім айцоўскім благаслаўленнем, каб і далей маглі будаваць Божае Валадарства на зямлі. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах. Вясёлых свят і шчаслівага новага года!
*Парафіяне з касцёла св. Казіміра ва Уселюбе*

**Паважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем моцнага здароўя, людской добразычлівасці і шчодрых Божых ласкаў. Няхай нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, няспынна адорвае Цябе сваімі дарамі: радасцю, любоўю, надзеяй і душэўным супакоем.
*Любячая мама з сям'ёй*

**Паважаны Ксёндз Рэдактар Юрый Марціновіч, а таксама ўсе Супрацоўнікі газеты "Слова Жыцця"!**
З нагоды Божага Нараджэння прагнем скласці Вам самыя цёплыя пажаданні. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, праз слова навяртаючы людзей да Бога. Жадаем дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці, здароўя, надзеі, мудрасці, душэўнага супакою. Няхай кожны дзень прыносіць сілы і радасць для выканання Вашай працы. Дзякуем і нізкі паклон!
*З павагай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Шаноўны Рэдакцыйны Калектыў "Слова Жыцця"!**
З нагоды свят Божага Нараджэння жадаем, каб любоў Пана, якая зззяе дзіцячай прастатой, зрабіла Вашыя сэрцы здольнымі да таго, каб як мага шырэй адкрыцца на шчодрыя дары Яго любові і дзяліцца з намі плёнам сваёй працы. Аддзяч, Божа!
*Вернікі з Астрыны*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Кучынскаму, Паўлу Безляповічу, Руслану Мазану, Анджэю Ганчару, Аляксандру Сямінскаму і Клерыку Томашу Мікалайчыку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчодрых ласкаў ад Езуса, дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх добрых справах і пачынаннях. Няхай Пан Бог адорвае Вас усімі дабротамі гэтага свету, каб доўга служылі Богу і людзям.
*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем шчырыя пажаданні: благаслаўлёных, радасных свят, поўных дабрыні, супакою і ўсіх Божых ласкаў. Дзякуем за ахвярную паслугу ў нашай парафіі. Няхай нованароджаны Езус шчодра ўзнагародзіць Вас моцным здароўем і душэўным супакоем, а таксама адорыць вялікай радасцю на пачатку новага 2018 года!
*З павагай і ўдзячнасцю, парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, а таксама Божага благаслаўлення на кожны дзень наступнага года. Дзякуем за абвяшчэнне Евангелля, прыгожы прыклад веры і мудрасці. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца.
*З павагай, парафіяне з касцёла Звеставання НПМ у в. Міжэрычы*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**
з нагоды Дня нараджэння, а таксама свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, мноства шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус, шчасця, радасці, сілы ў вучобе, стойкасці ў штодзённай паслузе Богу і людзям. Няхай Марыя і святы Заступнік апекуюцца Табой і дапамагаюць у кожную хвіліну жыцця.
*Бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважаны Ксёндз Зянон Рамейка!**
На парозе Новага 2018 года ў літургічным перыядзе Божага Нараджэння, а таксама з нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні: патрэбных Божых ласкаў, здароўя, любові ад Пана, каб Вы маглі з надзеяй крочыць праз штодзённасць. Няхай Маці Божая вядзе Вас па дарозе жыцця. Дзякуем за працу і кожнае слова, скіраванае нам.
*З памяцю ў малітве, парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: добрага здароўя, цярплівасці, стойкасці ў святарскай працы, шмат ласкаў ад Дзіцятка Езус і нястомнай апекі Маці Божай.
*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца адорвае Вас здароўем, радасцю, супакоем і благаслаўленнем, а Маці Божая атуляе сваім мацярынскім плашчом і абараняе ад зла. Дзякуем за апеку, дабрыню, увагу і час, які ахвяруеце нам.
*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем бязмерных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці, стойкасці на святарскім шляху, здароўя, радасці і людской дабрыні. Няхай Святая Сям'я благаслаўляе Вас, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі.
*Вернікі з Капцёўкі і Каменкі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**
з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, радасці, добразычлівых людзей на святарскім шляху, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень жыцця.
*Парафіяне з Ішчолна*

**Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Паўлу Раманчуку і Станіславу Садоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской добразычлівасці, благаслаўлення Дзіцятка Езус і сталай апекі Панны Марыі. Няхай Бог узнагародзіць Вас за малітву і нястомную працу.
*Рыцарства Беззаганнай і Адарацыйнае кола з парафіі МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Эдуарду Сінкевічу, Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму, а таксама Сёстрам Аляксандры і Дароце**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая нястомна апекуецца, а Святы Дух шчодра спасылае свае дары. Жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады, стойкасці і ясных дзён у святарскай і манаскай паслузе. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца і малітву.
*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра, Касцёльны камітэт і парафіяне, Гродна-Вішнявец*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божага благаслаўлення і няспыннай дапамогі святога Заступніка на кожны дзень надыходзячага года. Няхай Усемагутны асвеціць сваёй ласкай Ваш зямны шлях, а Найсвяцейшая Маці ахіне плашчом мацярынскай апекі. Багатага плёну на душпастырскай ніве!
*Вернікі з парафіі Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца складаем шчырыя віншаванні, спалучаныя з малітвай. Няхай нованароджаны Збаўца шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі, а Святы Дух спасылае свае дары. Жадаем здароўя, радасці, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы. Дзякуем за добрае сэрца, за тое, што вучыце нас любові да Бога і бліжняга, аказваеце падтрымку і надалей дорыце нам свой час, клопат і веды.
*З малітвай і павагай, парафіяне з Варнянаў і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**
з нагоды Раства Хрыстова і Новага года ад шчырага сэрца жадаем патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Няхай кожны дзень прыносіць Вам сілы для абвяшчэння Божага слова.
*З малітвай, парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважаны Ксёндз Віталій Цыбульскі!**
Шчыра віншуем Вас з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2018 года. Жадаем мудрасці, радасці, шчасця і запалу ў служэнні Богу і людзям, добрага настрою, здароўя, шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе. Няхай Пан Езус, Святы Дух, Маці Божая будуць Вашымі самымі блізкімі і дарагімі Памочнікамі ў будаванні Божага Валадарства на зямлі. Жадаем вялікай радасці з нагоды гэтых свят Вам і Вашым родным!
*Удзячныя вернікі з Іўя*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму, Алегу Яновічу, Віталію Цыбульскаму, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае ўсе дні жыцця, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну, Святы Дух апраменьвае сваім святлом і шчодра ўдзяляе дары, каб Вы яшчэ больш плённа служылі Богу і людзям.
*З малітвай, Легіён Марыі з парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважаныя Айцы Пробашч Андрэй Агель і Аляксандр Махнач!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем мноства ласкаў ад Усемагутнага на кожны дзень, моцнага здароўя, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай гэтыя цудоўныя святы, а таксама далейшыя дні жыцця будуць напоўнены супакоем, цеплынёй і дабрынёй.
*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважаныя Ксяндзы Уладзімір Гуляй, Віталій Сідорка, Алег Канановіч, Дзяніс Бразінскі, а таксама дарагія Сёстры Галіна і Агнэс!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года прыміце нашы сардэчныя віншаванні. Няхай нованароджаны Збавіцель, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас здароўем, радасцю, душэўным супакоем, а таксама дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў. Няхай наша ўдзячная малітва суправаджае Вас кожны дзень. Жадаем вясёлых свят і шчаслівага новага года!
*Касцёльны камітэт і парафіяне, Ліда-Фара*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння жадаем стойкасці ў святарскім пакліканні, супакою і добрага настрою, здароўя і шчасця, а таксама ўсяго самага лепшага. У першую чаргу, такога моцнага і яркага свята, каб Вам яго нічога не засланіла.
*Удзячныя парафіяне з Малой Бераставіцы*

**Паважаным Ксяндзам Здзіславу Пікулу і Аляксандру Пятровічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, шмат сіл і энергіі, радасных і спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Усемагутны, якому Вы даверыліся, благаслаўляе, Маці Божая прытуляе да свайго Сэрца, а Святы Дух асвячае кожны дзень святарскай паслугі.
*З павагай і малітвай, удзячныя парафіяне з Дзятлава*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Станіславу Пацыну, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Раманоўскаму, Антонію Грэмзу і Паўлу Беланосу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца адорвае Вас здароўем, радасцю, душэўным супакоем і дабрынёй людскіх сэрцаў. Жадаем таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і благаслаўлення Дзіцятка Езус. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе прыкладам для ўсіх вернікаў.
*Колы Жывога Ружанца, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2018 года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святая Сям'я апекуецца Вамі на працягу ўсяго жыцця, дадаючы сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Шчасці Божа!
*Парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай разам з нованароджаным Езусам у радасці і любові плывуць хвіліны жыцця, а супакой, як Бэтлеемская зорка, заззяе ў Вашым сэрцы. Няхай маленькі Езус будзе побач і шчыра Вас благаслаўляе, а Маці Божая асвячае кожны дзень жыцця.
*З павагай і любоўю, сем'і Іода, Валяк, Лях*

**Паважаным Сёстрам Аліцыі, Ліліяне, Тэрэзе, Караліне, Мірыям, Рэгіне, Наталлі з Кангрэгацыі Школьных Сясцёр Нотр-Дам**
з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем шмат ласкаў ад Дзіцятка Езус, радасці, супакою, цеплыні, павагі і дабрыні ад людзей, а таксама няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці.
*З павагай і любоўю, Людміла, Таццяна, Вольга*

працяг віншаванняў на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, поспехаў, шчырых і верных людзей побач, благаслаўлення ад Дзіцятка Езус і няспыннай апекі Панны Марыі. Дзякуем за прыклад глыбокай малітвы, мудрыя і павучальныя словы, духоўную апеку і навуку, якая пакідае след у нашых сэрцах. Няхай Ваш шлях служэння Богу будзе доўгім, шчаслівым і плённым, а Усемагутны ўзнагародзіць за тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю.
*З малітвай і павагай, парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, радасці ў святарскім служэнні, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго Сэрца, а святы Заступнік заўсёды апекуецца Вамі.
*Парафіяне з касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Мсціўбаве, вернікі з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні: поспехаў, шмат сіл і стойкасці на святарскім шляху, благаслаўлення ад Дзіцятка Езус і апекі Яго Маці. Няхай кожны дзень будзе асвечаны праменямі Божай міласэрнасці і любові, а жыццё будзе спакойным і шчаслівым. Жадаем Вам доўга служыць Богу і людзям.
*З малітвай і ўдзячнасцю, былыя парафіяне з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, сілы і стойкасці на святарскім шляху, штодзённай радасці, унутранага супакою, моцнай веры, непахіснай надзеі і палымянай любові ў душы. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да свайго Сэрца, а Святы Дух надзяляе мудрасцю і дадае сіл у душпастырскім служэнні.
*З павагай, былыя парафіяне*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму і Айцу Андрэю Ядкоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорыць Вас сваімі дарамі, здароўем, радасцю і душэўным супакоем, а наша ўдзячная малітва спадарожнічае Вам кожны дзень.
*Парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем радаснага чакання і гатоўнасці прыняць Божага Сына, а таксама здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, добразычлівых людзей побач, плённай душпастырскай працы, Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Маці.
*Зычлівыя парафіяне з Новай Руды*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Юрыю Саковічу і Айцу Ануфрыю Альховіку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца апекуецца Вамі, адорвае добрым здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі. Ад усяго сэрца дзякуем за працу ў нашай парафіі, за тое, што выхоўваеце нашых дзяцей і моладзь у веры. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй любоўю і заўсёды спадарожнічае на жыццёвым шляху.
*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас спакоем, радасцю і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе мацярынскай апекай, а Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Юрый Жэгарын!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года прыміце нашы сардэчныя віншаванні. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас усімі ласкамі, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік заўсёды абараняюць ад небяспекі. Жадаем, каб Пан благаславіў Ваша нястомнае служэнне, Езус быў Сябрам, а Яго Маці прытуляла да свайго Сэрца.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**
з нагоды Дня нараджэння, а таксама свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорвае Цябе сваім благаслаўленнем, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца і акружае любоўю. Шчасці Божа!
*Мама і родныя*

**Паважаны Ксёндз Антоній Казлоўскі!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Дзякуем за тое, што адведваеце хворых, перадаеце веру нашым дзецям і ўнукам, знаходзіцеся побач у хвіліны радасці і смутку. Вельмі ўдзячныя Богу, што паслаў нам Вас.
*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай маленькі Езус прытуліць Вас да свайго Сэрца і благаславіць, Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай, а Святы Дух апраменьвае святлом. Няхай у сэрцы заўсёды гарыць полымя любові і радасці. Шчыра дзякуем за любоў і цярплівасць да нас. Аддзяч Вам, Божа, за адданую працу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова і добрае сэрца!
*Касцёльны камітэт з парафіі Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем пажаданні моцнай веры, радасці, душэўнага супакою, здароўя, плённай душпастырскай працы. Жадаем таксама благаслаўлення Дзіцятка Езус і апекі Найсвяцейшай Маці. Дзякуем за цудоўныя казанні, якія вучаць любіць Бога, і за адкрытае сэрца. Няхай наша малітва будзе для Вас падтрымкай у складаных момантах жыцця.
*Парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Радзюку і Паўлу Урбану, а таксама ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,**
з нагоды свят Божага Нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас моцным здароўем, радасцю, душэўным супакоем, дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў. Памятайце, што наша ўдзячная малітва штодзённа Вам спадарожнічае. Радасных свят і шчаслівага новага года!
*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу і Яўгену Ціхану, а таксама Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, аптымізму, цярплівасці, шчырых і верных сяброў. Няхай Бог шчодра ўзнагародзіць Вас за нялёгкую але благаслёную працу. Няхай Святая Ноч напоўніць сэрца супакоем і радасцю, а Божая моц спадарожнічае на працягу ўсяго новага года.
*Парафіяне з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчасця, нязгаснага запалу і плённай працы на Божай ніве, шмат ласкаў ад Дзіцятка Езус, апекі Найсвяцейшай Маці, добрага настрою, радасці і незлічонай колькасці прыемных хвілін у гэтыя дні. Вясёлых свят!
*Вернікі з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Шаноўны Айцец Віталій Сярко!**
З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, здароўя, апекі Беззаганнай Маці, св. Максіміліяна і св. Фаустына Мігеза, шчодрых ласкаў ад Усемагутнага, спакою ў сэрцы, усмешкі на твары. Дзякуем за прамоўленыя Вамі навукі, якія кранаюць сэрца, за штодзённы прыклад адданага служэння Богу і людзям, малітву, добрыя словы і парады.
*З дарам малітвы, Рыцары Беззаганнай, Шчучын*

**Паважаным Ксяндзу Леону Ладышу і Арганісту Леону**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, сталай апекі Маці Божай і шматлікіх патрэбных ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Вашы жыццёвыя шляхі будуць шчаслівыя і благаслаўлёныя. Спадару Арганісту дзякуем, што навучыў нас і дзяцей весёлых ў спевах.
*Кола Жывога Ружанца, Больцішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Барысевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года з глыбіні сэрца жадаем, каб нованароджаны Езус Хрыстус адорваў сваімі ласкамі і дадаваў сіл у святарскай паслузе. Няхай агонь Божай любові ўзрастае ў Вашым сэрцы, а Бэтлеемская зорка ніколі не гасне на жыццёвым шляху. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, радасці, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай. Дзякуем за адданасць у служэбе, а таксама клопат аб нашым касцёле.
*Парафіяне з Нававельні*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых віншаванняў. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і аптымізму. Няхай Панна Марыя ахінае Вас сваёй пяшчотай, а Божае Дзіцятка асвячае жыццёвы шлях. Ад усяго сэрца дзякуем за доўгія гады служэння ў нашай парафіі.
*З малітвай, сям'я Амбражук*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем штодзённай радасці, шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем і падтрымлівае ў душпастырскай паслузе. Няхай Усемагутны, якому Вы даверыліся, дапамагае пераадольваць усе цяжкасці.

Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і прыклад шчырай веры.
*Парафія Лядск, в. Еўлашы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух апраменьвае святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач.
*Касцёльны камітэт з парафіі Імя НПМ у Рэплі*

**Паважаных Ксяндзоў Пробашча Аляксандра Раманоўскага, Андрэя Зайко, Антонія Адамовіча, Прэлата Юзафа Трубовіча**
ад усяго сэрца і з вялікай радасцю віншуем са святамі Божага Нараджэння. Жадаем, каб маленькі Езус вёў па зямной сцежцы, дапамагаў не згубіць правільны напрамак, заўсёды быў падтрымкай і апорай. Няхай свет Бэтлеемскай зоркі доўгай і белай стужкай цягнецца праз усё Ваша жыццё, асвячаючы радасныя падзеі.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Шаноўным Сёстрам Юліце Пятровай і Марыі Сакалоўскай**
з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці і шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус. Няхай Ваша жыццё будзе згодным з воляй і жаданнямі Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а Маці Божая няхай мае Вас у сваёй апецы і абараняе ад злога.
*Францішканскі ордэн свецкіх і Колы Жывога Ружанца з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем шмат Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі. Няхай Дзіцятка Езус адорыць здароўем, а далейшае жыццё плыве ў шчасці і супакоі.
*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая, парафія Воўпа*

**Паважаным Ксяндзам Валянціну Хведуку, Яну Рэйшалю, Віктару Захарэўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем шчырыя віншаванні, спалучаныя з малітвай: здароўя, сілы, стойкасці і радасці ад выконваемай паслугі. Няхай добры Бог асвячае сваімі ласкамі жыццёвы шлях, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца Вамі.
*Парафіяне з Моцевічаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юрыю Грыцко і Ігару Анісімаву**
з нагоды свят Божага Нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці ад плёну сваёй працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.
*З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Першамайскім і капліцы Божай Міласэрнасці ў Хадзілонях*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Бразінскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў на святарскім шляху. Няхай нованароджаны Езус суправаджае Вас па жыцці, Святы Дух адорвае мудрасцю, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй апекі.
*Супольнасць "Маці ў малітве", Смаргонь*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму, Дзмітрыю Леўчыку, Яну Кузюку, Аляксандру Вараб'ёву, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Эйсманту, Міхалу Васількевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2018 года жадаем моцнага здароўя і шчодрых Божых ласкаў. Няхай Святы Дух узмацняе ў душпастырскай паслузе, а Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі і атуляе плашчом мацярынскай дабрыні.
*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем штодзённай радасці, шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама дабрыні і зычлівасці ад людзей. Няхай Дзіцятка Езус адорвае супакоем і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца, а Бог, якому даверыліся, дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Дзякуем за адданую працу ў нашай парафіі.
*З малітвай, вернікі з парафіі Крупава*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**
з нагоды Імянін, Дня нараджэння, свят Раства Хрыстова і Новага года жадаем душэўнага супакою і шмат радасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Шчасці Божа!
*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**
з нагоды Імянін, свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Маці, Божай міласэрнасці, аптымізму, цярплівасці і душэўнага супакою. Няхай Ваша сэрца заўжды застаецца адкрытым на людзей.
*Вернікі з касцёла Перамянення Пана ў Навагрудку*

● працяг віншаванняў у наступным нумары

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6576 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная